ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

8 • 2016
жнівень

Малюнак Алега ГУЦОЛА.


Актуальныя Карыкатуры
Аляксандра Каршакевіча


Эканамічная сістэма
Вернеш з працэнтамі!..
МВФ


Не дам ні рубля!
40


Мы яе губляем!!!
НІЗКІ КОШТ НАФТЫ
КАНКУРЭНТАЗДОЛЬНАСЦ


Энергатарыфы
Жыллёва-камунальныя гаспадаркі
Прадпрыемствы


Флэшка ці цялежка?




Хто на лёс няшчасны скардзіцца,
На таго і беды валяцца.

* * *

Каб кепска не было самому,
Балюча не рабі нікому.

* * *

Там добра гасцюецца, п'ецца
і есца,
Дзе гумару, жартам і песням
ёсць месца.

* * *

Пакуль заляцаўся — салаўём
заліваўся,
А як ажаніўся — пра спевы
забыўся.

* * *

Прыемна ўвага і каню —
Усе шануюць дабрыню.

* * *

Мець грошы будзеш у запасе,
Калі на хлебе жыць ды квасе.

* * *

Хітруноў асцерагайся,
На адлегласці трымайся.

* * *

Калі ў марах ты лунаеш —
Сваю ўдачу абмінаеш.

* * *

Хто ные, стогне ды ляжыць,
Да таго бяда бяжыць.

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




## Як засцерагчы дзяцей?

*Памфлет*

Ніхто нават не падумае спрачацца, што жыццё і здароўе — самае каштоўнае, што ёсць у чалавека. Ніякія грошы, золата, дыяменты, машыны і нерухомасць не могуць канкурыраваць з гэтымі рэчамі.

Існуе павер'е, што за намі ў дзяцінстве пільна назіраюць анёлы. Яны аберагаюць малых ад небяспекі, якая ў такім узросце можа падсцерагаць іх на кожным кроку. Але здараецца так, што ў прывычны лад жыцця ўрываецца спадар выпадак. І тут ужо ніхто не можа прадказаць вынікі...

Гэтае лета стала сапраўды нешчаслівым для многіх сем'яў. Амаль кожны тыдзень можна было прачытаць ці пачуць навіны пра дзяцей, якія выпалі з акна. Часцей за ўсё гэта здаралася з малымі ва ўзросце ад года да шасці.

Па дадзеных Следчага камітэту, з пачатку года так загінулі шасцёра дзяцей. Не атрымалася анёлам зберагчы іх, выпадак быў на крок наперадзе. На шчасце, многія засталіся пасля подобных здарэнняў жывымі.

Гэта цяжкая, несправядлівая, жорсткая навука для ўсіх бацькоў. Мы прапануем некалькі спосабаў, як можна ў разы павысіць бяспеку вашага дзіцяці.

**1.** Раз і назаўсёды запомніце, што маскітная сетка не ўратуе ад бяды. Яна прымацавана не так надзейна, каб вытрымаць вагу дзіцяці.

**2.** Калі пакідаеце пакой, абавязкова зачыняйце вокны. Павышаюць узровень бяспекі спецыяльныя механізмы: ручка з ключом, дзіцячы замок ці блакіроўшчык павароту ручкі. Можна купіць і адмысловыя тросікі, нацягвальнікі і пластыкавыя абмежавальнікі.

**3.** Можна нацягнуць на вокны ў 2 — 3 рады лёску і пафарбаваць яе ў яркі колер. Калі дзіця захоча, напрыклад, паглядзець бліжэй на прыгожую птушку, якая прыляцела на падаконнік, ён сустрэнецца з перашкодай, якая не дазволіць яму выпасці з акна.

**4.** Паспрабаваць растлумачыць, што вышыня небяспечная. Для гэтага можна ўзяць яйка і выкінуць з акна. Потым спусціцца, паказаць, што яно разбілася на часткі. Маўляў, яйка ўжо не сабраць і не склеіць. Было цэлае і прыгожае, а цяпер глядзі, што з ім стала...

Безумоўна, лепш за ўсё дзяцей ад падзення ўратуе ўвага бацькоў. А каб не баяцца, што можа здарыцца бяда, скарыстайцеся нашымі парадамі.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Міхась МІРАНОВІЧ

## Несправядлівасць



– Чаму так заведзена,
Сват? –
Размова ідзе
Між мужчынамі. –
Хаця
Болей любім дзяўчат,
Ды жыць выпадае
З жанчынамі!

## Кабета ў хаце



Бабыль Пятрок
Казаў Ігнату:
– Каб адзіноту
Разагнаць,
І я б прывёў
Кабету ў хату,
Ды потым
Як яе прагнаць?!

## У разведку



Ён шмат слоў крыўдных
Для кагось знайшоў:
– Не, у разведку
З ім бы не пайшоў!
Спытацца захацелася:
– Нябога,
А ці пашлюць туды
Цябе самога?..

## Саломы не хопіць



– Каб знаў,
Дзе давядзецца ўпасці,
Саломкі б там
Паслеў падкласці.
А дзе б ты змог,
Дазволь спытаць,
Саломы гэтулькі
Дастаць?..

## Заканамернасць



Чамусь не можам
Зразумець,
Асэнсаваць
Зусім не ў стане:
Чым больш сяброў
Мы будзем мець,
Тым меней ворагаў
Ў нас стане!

## Памылкі



На іх вучыцца
Многім давялося.
Што да мяне –
Закралася сумненне:
Танней, відаць,
Вучэнне б абышлося,
Каб заснаваць яго
На правільных рашэннях.

## Не дачакалася



Бытуе версія
Такая,
Што шчасце
Кожнага чакае.
А што ж з маім,
Скажыце, сталася?
Чаму мяне
Не дачакалася?..

## Смех ці плач?



Ведама,
Не можа спадабацца,
Як над вамі
Хтось пачне смяяцца.
А ці лепей,
Памяркуйце самі,
Калі плакаць
Будзе хтось над вамі?..

*г. Віцебск.*






Малюнкі Алега ПАПОВА.

## Тармазнуўшы над Аўцюкамі




Кажуць, што сапраўдны аматар беларускага гумару павінен у сваім жыцці зрабіць дзве рэчы: пасябраваць з часопісам «Вожык» і... пабываць на Рэспубліканскім фестывалі народнага гумару «Аўцюкі»! Больш за дваццаць гадоў фестываль трымае марку і сёлета сабраў нямала гасцей не толькі з усіх куткоў Беларусі, але і з бліжняга замежжа: зарадзіцца вясёлым настроем на Гомельшчыну прыехалі калектывы і дэлегацыі з Расіі, Малдовы, Украіны. Мерапрыемства стартавала вечарам 8 ліпеня на памежжы вёсак Малыя і Вялікія Аўцюкі з адкрыцця новага «турыстычнага аб'екту» — лавы прымірэння для Каласкоў і Калінак (менавіта так называюць сябе мясцовыя жыхары). На другі дзень эпіцэнтр свята быў перанесены ў Калінкавічы, дзе разгарнулася маштабная канцэртная праграма і прайшоў шэраг іншых мерапрыемстваў: традыцыйнае «швэнданне па падворках», выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Горад майстроў», «Аўцюкоўскія алімпійскія гульні», творчая выстава мастака-карыкатурыста Алега Карповіча «Мір. Культура. Аўцюкі» і інш. Каб не быць галаслоўнымі, прапаноўваем вам, шаноўныя, паглядзець фотарэпартаж са свята ў сталіцы гумару! Віват Аўцюкі!















**Мікола ШАБОВІЧ**

## Аўцюкоўцы

*Песня*

На свята клічуць Аўцюкі –
Сатыры й гумару сталіца.
А значыць, час прыйшоў такі:
Не сумаваць, а весяліцца.
Пачуць гарэзны анекдот
Малых-вялікіх аўцюкоўцаў,
Ураз пазбавіцца турбот,
Душу сагрэць дасціпным слоўцам.

*Прыпеў:*
Аўцюкоўцы! Аўцюкоўцы!
Шчырыя мае вяскоўцы!
Каласкі мае, Калінкі,
З вамі дні – як мёд!
А таму, шаноўны Ліпскі,
Ты пакінь свой клопат мінскі
І ўздымай хутчэй у неба

Гулкі вералёт.
Я тут ізноў жаданы госць –
Пра свята лепшае не мар ты!
Нібы вярнуўся ў маладосць
Ад гэтых песень, смеху, жартаў.
А вось і Гумару Музей,
Дзе столькі рэдкіх экспанатаў...
Я не страчаў такіх людзей –
З душою чыстай і багатай.

*(Прыпеў)*

Хоць час стралою праімчыць,
Ды ўсё ж развеецца самота.
Чаму ж у сэрцы так гучыць
Чароўнай музыкай пяшчота?
На Мінск пакліча магістраль,
Ды мне да рання будзе сніцца
Усмешак светлых фестываль,
Сатыры й гумару сталіца.

*(Прыпеў)*

**Васіль ТКАЧОЎ**

## Недарэчнасць

*Гумарэска*

Пісьменнік Сямён Лазінкін вярнуўся дадому спахмурнелы, сам на сябе не падобны. Нават брыво торгалася, то над адным вокам, то над другім. Ён не паставіў, як гэта рабіў звычайна, партфель на падлогу ў прыхожай, а адразу ж, ледзьве пераступіўшы парог, шпурнуў яго на канапу. І вылаяўся: «З такім жыццём!..» Жонка занепакоілася: «Што гэта з ім? Ніяк чорны кот дарогу перабег?»

– Што з табой, Сёмачка? – нарэшце асмелілася пацікавіцца яна.

– Ат, і не пытайся...

– Мне ты прызнацца можаш. У цябе ж ажно твар пачарнеў. Бачу, і ціск падскочыў. Кажы хутчэй, а то я памру ад нецярпення!

Сямён сеў на канапу побач з партфелем, расшпіліў яго і дастаў газету. Разгарнуў, паляпаў па старонцы.

– Надрукавалі чатыры вершы, называецца! На, чытай! – і амаль сілком упіхнуў газету ў рукі жонкі. – Ганьба!

Тая пачала чытаць.

– Ты ўслых, услых. Можа, я ўжо зусім здурнеў і нічога не разумею?

– Навошта ўслых? Тут усё правільна. Калі і дзе нарадзіўся, што скончыў. Дзе працаваў. Колькі кніжак выдаў. Нават назвы пералічылі. Хаця што тут указваць? Розуму багата не трэба. Усяго дзве...

– Але ж які ляп, Сямён, дапусцілі! – не мог супакоіцца паэт Лазінкін.

– Здаецца ж, усё дакладна, – здзіўлена глядзела на мужа жонка.

– Не ўмеюць працаваць цяпер у рэдакцыях! – па-ранейшаму абураўся Лазінкін. – Набралі абыкага ў штат! Невукі!

– Дык дзе твой ляп? Кажы хутчэй, вячэра на стале стыне.

– Што мне вячэра пасля ўсяго гэтага?! Зусім няма апетыту. А ўсё з-за памылкі ў біяграфіі. Напісалі, што і выпускнік школы, і інстытута. Тут прэтэнзій няма. Але ж, нягоднікі, выкінулі тое, што я выпускнік дзіцячага садка № 34. Якая недарэчнасць! А я ж хацеў газету паказаць у садку. Як бы там узрадаваліся! Уяўляеш? Партрэт мой прычапілі б пры ўваходзе. Кожнае дзіця, пераступіўшы парог, торкала б пальчыкам і пыталася: «Хто гэты дзядзька?» А яму б адказвалі: «Гэта наш гонар, выпускнік 1964 года. Бачыце, дзеткі, кім стаў? Таму, што кашку еў». Га?

Жонка кінула газету на канапу і паспяшалася па лекі: трэба хутчэй ратаваць мужа!

*г. Гомель.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




*Фельетон*

Ігар, Сяргей, Іра і Маша – аднагодкі. Разам хадзілі ў дзіцячы садок, правялі побач адзінаццаць класаў школы. Пра такіх кажуць: з пялёнак знаёмыя. Канешне, усе яны былі вельмі розныя, кожны меў уласныя здольнасці, вучыўся на сваім узроўні, але гэта не перашкаджала ім быць добрымі сябрамі.

Калі ўсе школьныя экзамены былі здадзены, атрыманы вынікі тэсціравання, яны сабраліся ў Сяргея дома, каб абмеркаваць самае складанае і хвалюючае ўсіх пытанне – паступленне ў ВНУ.

– Ведаеце, сёння паглядзела ў люстэрка і заўважыла першую маршчынку. Вось як мне цяжка даліся гэтыя выпрабаванні! – тыцнула пальцам каля вока Іра.

– Ага, зусім старая, я нават бачу сівыя валасы, – зарагатаў з такой навіны Ігар.

– Дурань! Сам бы пасядзеў за падручнікамі некалькі месяцаў, свету белага не бачачы, я б на цябе паглядзела, – заступілася за сяброўку Маша.

– А я што? Чытаў, вучыў, як і ўсе, – пачаў апраўдвацца Ігар.

– Ага, ведаю, як ты рыхтаваўся. Амаль кожны вечар на школьным стадыёне мяч ганяў! – з дакорам прамовіла Іра.

Сяргей слухаў сяброў і не мог стрымаць усмешкі. Колькі гадоў побач, а нічога не змянілася.

– Хопіць сварыцца, не з-за гэтага тут сабраліся. Я вас амаль два тыдні не бачыў, расказвайце, на што хапае вашых балаў за ЦТ, куды ўсё ж такі паступаць будзеце? – нечакана сур'ёзна прамовіў хлопец.

Усе здзіўлена паглядзелі на Сяргея. Памаўчалі некалькі хвілін.

– Чаго прыціхлі? – першай падала голас Іра. – Пра мяне вы ўсё ведаеце. Я з сёмага класа марыла стаць урачом. Хоць і скончыла школу з добрымі адзнакамі, але ж перажывала за тэсты! Беларускую мову добра ведаю, за яе было не страшна. На раённых алімпіядах па хіміі я заўсёды займала добрыя месцы. А вось з біялогіяй маглі ўзнікнуць цяжкасці. Мне вельмі хацелася паступіць на стаматолага ў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, але прахадны бал на бюджэт там у гэтым годзе ажно 368! А ў мяне выйшла толькі 335. Таму пайшла на педыятрыю. Так што я цяпер студэнт-медык. Буду дзяцей лячыць.

Сябры заўсміхаліся, пачалі віншаваць Іру, якая проста свяцілася ад шчасця.

– Ты малайчына, я і не сумняваўся. Мне вось так не пашанцавала, – сказаў Сяргей. – Марыў трапіць на бюджэт у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, толькі балаў не хапіла. Хацеў паспрабаваць на завочку, але бацькі сказалі, каб ішоў на платнае. Канешне, сума не малая, у год на факультэце камп'ютарнага праектавання – 2050 рублёў. Але я думаю, што павучуся два гады, а потым пачну падрабляць і буду сам аплачваць вучобу. У мяне ёсць знаёмыя, якія там вучыліся, добрыя грошы атрымоўвалі яшчэ студэнтамі.

– Тваё гэта, Сяргейка, – пакалашмаціла валасы хлопца Ірына. – А вось я амаль заваліла тэсты. Так хвалявалася, што ўсё пазабывала. Добра, прадметы выбрала якраз тыя, якія шмат дзе патрэбны для паступлення – беларуская мова, хімія і матэматыка. У выніку набрала 142 балы. Ужо думала, што буду сядзець дома год. Але прайшла без праблем на спецыяльнасць «Лясная гаспадарка» ў Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. Там увогуле бралі з агульным балам 133. Зразумела, хацелася б паступіць на больш прэстыжную спецыяльнасць, але зараз для мяне важна атрымаць вышэйшую адукацыю. Хто перашкодзіць потым атрымаць другую? Так што перад вамі таксама студэнт!

Сяргей, Маша і Іра з цікаўнасцю паглядзелі на Ігара, чакалі, што расскажа ён. Той усміхнуўся на ўвесь рот і сказаў:

– Ведаеце, я тут з бацькам нядаўна размаўляў. Прызнаўся, што не хачу праседжваць штаны чатыры гады ў ВНУ. Не мае гэта! Ён паслухаў-паслухаў, а потым сказаў, што я вольны сам выбіраць. Але ўсё ж такі прапанаваў здаць тэсты. Беларускую і матэматыку я неяк адолеў, набраў балаў крыху, а вось фізіку... сорамна прызнацца. Толькі восем балаў са ста атрымаў. Пасля гэтага бацька мяне больш не чапаў. Параіліся з маці і прыйшлі да высновы, што мне прамая дарога ў будаўнікі. Скончу курсы маляра-тынкоўшчыка, пасля ўладкуюся на працу. Потым, калі будзе патрэба, паступлю на завочку. А я што? Я згодзен і, скажу вам па сакрэце, вельмі шчаслівы.

Сябры яшчэ доўга ўспаміналі іспыты, праз якія ім давялося прайсці. Узгадвалі смешныя гісторыі, дзяліліся ўражаннямі. Але пытанне засталося адкрытым: што іх чакае на гэтым ужо зусім дарослым студэнцкім этапе жыцця?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

Мікола МАЛЯЎКА

# Чырвоны дыплом



Без намаганняў, душэўных пакут
Скончыў пасынак інстытут.
Айчым, чыноўнік высокі,
Падняў лайдака пад аблокі.
І дома пасля, і за домам
Хваліўся чырвоным дыпломам:
Да пенсіі ён, самавіты,
Не сыдзе ў цень з творчай
арбіты.
І праўда: чароўным святлом
Спрыяў ганаровы дыплом.
Не скубла жыццё і не трэсла,
Чакала службовае крэсла.
Ды толькі памёр айчым –
Застаўся «выдатнік» ні з чым.
Па ўласным жаданні нібыта
Сышоў з высокай арбіты.
Дыплом жа, пакрыты пылам,
Страціў магічную сілу.
Цяпер, як перакаці-поле,
Туляўся ў канторы, у школе.
Нарэшце, спакойны і ціхі,
Без жальбы, але і без пыхі,
Ссівеў ён на сціплай пасадзе,
Вартуючы цацкі ў дзіцячым садзе.

***

Як не хацеў граніт навукі грызці –
Не будзеш ад дыплома мець
карысці.

# Эпіграмы

Янусь МАЛЕЦ

## Ад паэта мастакам — торба цёплых эпіграм!

### Сяргею Волкаву

Калі б наш «Вожык» размаўляў,
Напэўна, ён бы так сказаў:
– Няхай малюе болей Волкаў,
Каб не тупіліся іголкі!

### Алегу Карповічу

Не да рыбалкі, не да карпаў
Ляжыць яго душа – да жартаў.
Гучыць абавязкова смех
Там, дзе малюе наш Алег.

### Мікалаю Гіргелю

З «Вожыкам» даўно сябруе,
Стыль уласны прэзентуе.
Дорыць нам яго аловак
Сотню радасных вясёлак!

### Аркадзю Гурскаму

Чым мастак адметны Гурскі?
Тым, што мысліць ён не вузка.
Сэнс, заключаны ў малюнак, –
Нечаканы падарунак.

### Алегу Гуцолу

Хоць ён родам з Украіны,
Ды барысаўскім стаў сынам.
Жартаўлівая натура
Прывяла ў карыкатуру.
Добра пастараецца –
Чытачы ўсміхаюцца!

### Анатолю Гармазе

Нібыта Пеле ў футболе,
Ас ён на мастацкім полі.

### Алегу Папову

Алег Папоў не са святых,
Бывае часам грэшным.
Умее добра даць пад дых
Малюнкам свежым, смешным!

### Аляксандру Каршакевічу

Каб жыццё палепшыць наша,
З «Вожыкам» зрадніўся Саша.
Афармляе ўсё прыгожа,
Бо халтурыць ён не можа.

*г. Мінск.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




## Паэт, душа якога спявала

Сёлета вядомаму беларускаму паэту Генадзю БУРАЎКІНУ споўнілася б 80 гадоў. Узгадваючы асноўныя вехі плённай літаратурнай і грамадскай дзейнасці Генадзя Мікалаевіча, мы з гонарам адзначаем, што значны перыяд свайго жыцця – з 1995 па 2001 гг. – ён аддаў працы ў нашым часопісе. Дарэчы, менавіта ў гэты час схільнасць пісьменніка да вострай публіцыстычнай сатыры праявілася асабліва ярка. Лепшыя сатырычныя вершы аўтар сабраў у кнігу «Конь незацугляны» (1996), што выйшла ў «Бібліятэцы «Вожыка».

На творчым рахунку Генадзя Бураўкіна шмат паэтычных зборнікаў, надзвычай пранікнёная і шчырая інтымная лірыка пісьменніка сабрана ў асобных кнігах «Пяшчота» (1985) і «Чытаю тайнапіс вачэй» (2001). Своеасаблівую «песеннасць» яго вершаў заўважылі беларускія кампазітары, у выніку чаго з'явіліся вядомыя і ўсімі любімыя шлягеры на словы Генадзя Мікалаевіча «Белы снег», «Зачараваная» і інш. Ну, а «Калыханку», таксама напісаную на словы аўтара, мы добра памятаем з дзяцінства, ды і зараз нашым дзеткам кожны вечар яе спяваюць па беларускім тэлебачанні.

Гарманічнае спалучэнне ў творчай натуры пісьменніка лірычнага і гумарыстычнага пачаткаў забяспечыла яму поспех у кожным з гэтых кірункаў. А нам, чытачам, – цудоўную магчымасць усміхацца з удалых жартоўных вершаў і песен паэта.



Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,1996 г.

## Мяшок з медалямі

Ішоў чалавек.
У руках – мяшок.
А ў ім –
Бляшкі-рэгаліі.
Сэрца дрыжыць –
За штуршком штуршок –
Каб толькі не адабралі!

Гэта ж дажыўся
У рэшце рэшт:
Свая рука –
Уладыка.
Калі ніхто
Мех не адбярэ,
Чапляй адзнакі
Без ліку.

Глядзеў ён з нянавісцю
Па баках –
Горла гатоў перагрызці
Нават у лепшага дружбака,
З кім соллю дзяліўся
Калісьці.

Зайшоў чалавек
У дрымучы лес,
Сеў пад сасной зялёнай
І асцярожна рукой залез
У мех,
Поўны меднага звону.

І выцягнуў ордэн.
За ім – другі.
А потым –
Медаль блішчасты.
І паплылі ў вачах кругі.
І лес пахіснуўся ад шчасця.

Ён вешаў на правы,
На левы бок,
Прышпіліць на спіну стараўся,
Вакол,
Як той зацкаваны воўк,
Спалохана азіраўся.

І вось ужо,
З галавы да ног
Абвешаны ўсімі рэгаліямі,
Ён на нагах устаяць не змог –
І грымнуўся
На прагаліне.

Ваўкі завылі непадалёк.
На асінах залопала лісце...
Але адшпіліць
Хоць адзін медалёк
Рукі не падняліся.
А ў змроку
Стары пугач галасіў,
Яхкаў вяпрук галодны.
І не было ў чалавека сіл
Цягнуць на сабе ўзнагароды.

Паклікаць людзей,
Ад бяды ўцячы
Не далі чалавеку
Рэгаліі.
І моўчкі ваўкі маладыя ўначы
Ягоны шкілет абглыдалі...

...Таго чалавека
Зусім не шкада.
Ды недзе ж
Ляжыць на выгодзе
Яшчэ не пусты
Той мяшок –
І бяда,
Калі яго нехта знойдзе...

*«Конь незацугляны», 1996 г.*











## Уладзіміру ЧУГЛАЗАВУ — 50!

Своеасаблівае творчае светабачанне, уменне высвечваць вострыя і актуальныя праблемы, трапнасць і лаканічнасць у выкананні — усё гэта словы да карыкатур Уладзіміра Уладзіміравіча, мастака арыгінальнага і пладавітага. Мы сардэчна віншуем юбіляра і жадаем яму светлых момантаў жыцця, моцнага здароўя і доўгіх гадоў сяброўства з «Вожыкам»!













Ганна АТРОШЧАНКА

## Нечаканы бартар

*Іранеска*

Званок у дзверы быў доўгім і настойлівым. Цётка Вера, адклаўшы ўбок сваю вышыўку, паціху патупала ў калідор. Гучна запыталася:

– Хто там?

– Гандлярка. Адчыніце дзверы, калі ласка!

– Якая яшчэ гандлярка? – строга спытала жанчына.

– Вулічная. Не бойцеся! Адчыняйце. Можа, нешта і купіце ў мяне.

Пачуўшы за дзвярыма звонкі голас сваёй суседкі, Вера, крыху паразважаўшы, адчыніла. Бо чаго баяцца, калі і Наста там? Яна абы-куды не палезе.

І сапраўды: на лесвічнай пляцоўцы, побач з суседкай, стаяла чарнявая карабейніца. Вера неаднаразова бачыла, як такія ж вулічныя гандляркі з вялізнымі торбамі за плячыма гойсалі па гарадскіх дварах. Цыганкі настойліва прапаноўвалі свой тавар жанчынам, якія ў гэты час сядзелі на лаўцы. Чаго там толькі не было! І пасцельная бялізна, і дзіцячыя штонікі, і халаты на любы густ... Вядома ж, гараджанкі глядзелі, цікавіліся. Некаторыя нават штосьці і куплялі.

Суседка жвава павярнулася да Веры і залапатала:

– Вось, купіла сабе новы халат! І каштуе не надта шмат. Стары ўжо зусім стаў непрыгодны. Зірні!

Вера пахваліла суседку за набытую абноўку і зазначыла:

– Але ж мне гэтая рэч не патрэбная. У шафе ляжыць другі халат, зусім новы.

– Тады купляйце нешта іншае, – хуценька затараторыла маладая цыганка. – Вось гэтыя хатнія тапачкі. Зручныя, мяккія...

Вера кінула вокам на тавар і цвёрда адказала:

– Нічога мне не трэба. Усё, што вы прапанавалі, у нас ёсць. І грошай лішніх не маем на такое.

Цыганка пільна прыгледзелася да Веры і прапанавала:

– Тады давайце зробім абмен.

– Які? – здзівілася цётка.

– Я вам аддам дзве цёплыя коўдры, узімку мёрзнуць не будзеце. А вы мне... Зубы ж у вас, мяркую, залатыя?

Ад нечаканасці ў Веры аж мову заняло. Як можна было даўмецца да такога бартару? Жанчына моўчкі падалася ў прыхожую па венік. Убачыўшы гэта, спалоханая цыганка, падхапіўшы свае торбы, быццам мячык, пакацілася ўніз па лесвіцы...

*г. Гомель.*




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.

Анатоль ЗЭКАЎ




Дарэмна хвастом ты віляеш
І думаеш век так пражыць.
Як шыла ў мяшку не схаваеш,
Так нельга і праўду ўтаіць.

* * *

Ён такую звычку мае:
Слова дасць – і не стрымае.
Я не раз ужо казаў:
«Лепей ты б не абяцаў!»




* * *

Казаць пра тое не грашы,
Што з любым рай і ў шалашы.
Сама старога выбрала ахвотна
З трохпакаёўкай ды
з еўрарамонтам.

* * *

Усё ў адносінах складана,
Ды памятай між тым заўсёды:
Не поўзай каля ног каханай,
А лепей разам з ёю лётай.

* * *

Хоць шышкамі набіты лоб,
Ды я адным усцешаны:
Каханне – горшая з хвароб,
Яно ж – і лекі лепшыя.






Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

## Спарышы для душы

Ці варта хваліцца былым,
Калі яно знікла, як дым?




Языком ён меле гожа,
Ды нічога сам не можа.

Наш грамадзянскі шлюб, пагодзішся са мной,
Ужо зрабіўся грамадзянскаю вайной.

Сам з сябе смяецца: «Вось дык я!
Злодзей змог кішэнь пачысціць злодзея!»



Віно — атрута, шкода, звада,
Чаго ж яму так горла рада?

Як смак знаходзіш у гарэлцы,
То не шукай яго ў талерцы.




Зрабіць ворагам сябра мы можам свабодна,
Дружбака зрабіць з ворага — неверагодна.

Чамусьці, што маем, за шчасце не лічым,
А ўпарта ганяемся за таямнічым.



Ледзь-ледзь з'явіліся праталіны —
І вопраткі ў дзяўчат прыталены.



Спаць прыемна летам на двары,
Ды не дрэмлюць ноччу камары!

Сумневаў больш не трэба, дружа, супыніся!
Вясною закахаўся — восенню жаніся!

**Алесь КОРНЕЎ,**
*г. Баранавічы.*

Л. Р. Казлоў

З дазволу караля і вялікага князя



## Падарожжа ў мінуўшчыну. З гумарам!..

Да айчыннага чытача ўжо не ўпершыню прыходзяць сімпатычныя па афармленні зборнікі гістарычных анекдотаў Льва Раманавіча Казлова пад назвай «З дазволу караля і вялікага князя». Гэтым разам гісторык і картограф, кандыдат гістарычных навук (!) выдаў зборнік як па сённяшнім часе, то і зусім неблагім накладам – у 500 асобнікаў. Хаця, пэўна ж, над гісторыяй пасмяяцца і шмат болей можа быць жадаючых.

Чытаецца ўсё сапраўды на адным дыханні. А як жа іначай можа быць?!. Тут вам не толькі смех, але і грэх... Вось паслухайце, калі ласка: «Сустрэліся раз шляхціцы на сваім сейміку, і зайшла ў іх гаворка пра старажытнасць роду кожнага з прысутных. Што толькі не навыдумлялі яны, каб перасягнуць адзін аднаго! Пераможцам стаў той, што прывёў наступны доказ: «Ехаў я аднойчы на кані полем. Раптам бачу, як з неба спускаецца белы-белы воблак, а з яго выходзіць... Маці Боская. Я саскокваю з каня і падаю перад ёю на калені, скінуўшы шапку. А яна на гэта: «Устань, дарагі кузен!». Вось, атрымліваецца, «кузен» і аказаўся з самага што ні ёсць старажытнага роду.

Што ж тут і казаць... А нічога лішняга, мусіць, і казаць не трэба. Красамоўнай, надзвычай пераканаўчай атрымліваецца кожная старонка гумарыстычнай, а часам і сатырычнай, нават востра-сатырычнай, памяці пра мінулае.

Але анекдоты, гістарычныя гумарыстычныя гісторыі і гісторыйкі вы пачытаеце самі, а я зараз заўважу яшчэ толькі вось што. Кніга носіць характар сапраўды аўтарскі. Леў Раманавіч Казлоў не проста сабраў гісторыі з розных дасведчаных і аўтарытэтных крыніц, якіх ён выкарыстаў у сваёй працы досыць багата, а пастараўся пракаментаваць памяць даўніны, выкласці сваё ўласнае, часам, можа быць, і суб'ектыўнае стаўленне да ранейшых прыдумак. Кніга «З дазволу караля і вялікага князя» падзелена на адмысловыя раздзелы: «Усмешкі між летапісных радкоў», «Прыправа да гуманізму», «Рыцары еўрапейскай сарматыі», «Дасціпны люд паспаліты», «Каранаваныя снапы», «Ад Яся да Стася», «Што дазволена Радзівілу»... І яшчэ: кніга ўражвае, прыцягвае да сябе сімпатычным афармленнем. Не выпадкова і прысвечана сёлетняе выданне памяці вядомага беларускага мастака Пятра Драчова. Дасціпныя малюнкі – ужо самі па сабе з гумарам, з перцам. Пятро Драчоў, пэўна ж, не меней, чым аўтар і ўкладальнік Леў Раманавіч Казлоў, пастараўся ў свой час, каб кніга шчырае цяпло ўсмешкі выклікала.

Так што, прыемнага чытання гістарычных анекдотаў!

Гартаючы старонкі па свойму ўнікальнага зборніка, паверце, вы новымі вачыма паглядзіце на вядомых персанажаў айчыннай гісторыі – на Альгерда і Бону Сфорцы, на Гедыміна і Казіміра Ягайлавіча, на Тадэвуша Касцюшку і Міндоўга... Сустрэнемся і з расійскімі, польскімі царамі, імператарамі, каралямі ды іншымі магнатамі.

**Сяргей ШЫЧКО.**

## Леў КАЗЛОЎ

### Гістарычныя анекдоты

Па дарозе, што вяла да горада, ехаў верхам на кані шляхціц. А быў ён таўшчэзны, з-за чаго конь увесь час збіваўся на павольную хаду. Вечарэла, і трэба было спяшацца, бо гарадскія вароты на ноч звычайна зачынялі, а тады колькі ні прасі – не прапусцяць.

Калі да брамы было ўжо зусім недалёка, насустрач нашаму вершніку



трапіўся селянін на возе, які вяртаўся дадому.

– Паслухай, – звярнуўся да яго шляхціц, – ці змагу я ўехаць у горад?

Селянін, уважліва агледзеўшы фігуру сустрэчнага, адказаў:

– Я дык з фурай сена праехаў, думаю, ваша мосць неяк праціснецца.

* * *

Аўгуст ІІІ толькі аднойчы, падчас каранацыі, надзеў традыцыйную сармацкую вопратку, каб спадабацца шляхце, пасля чаго ўбіраўся ў сучаснае

моднае французскае адзенне з нязменным пышным парыком на галаве. Неяк кароль выбраўся на паляванне ў Белавежскую пушчу. Яго эскартавала вялікая колькасць усялякіх паноў. Такое незвычайнае відовішча прывабіла мноства навакольнага насельніцтва. Людзі хацелі ўбачыць на ўласныя вочы свайго ўладара, што ўпершыню з'явіўся ў гэтых краях. Але той амаль увесь час падарожжа спаў, заваліўшыся на мяккія падушкі карэты. А ў акне відаць была толькі галава каралеўскага пудзеля. «Неяк дзіўна выглядае яго вялікасць, – казалі ўслед ад'ехаўшаму каралю, – каб не тыя валасы, ну, зусім быў бы падобны на сабаку!



* * *

Аднаго разу сяляне вырашылі пабудаваць у сваёй вёсцы новую царкву. Спачатку трэба было прывезці каменне для падмуркаў, але гэтая справа ішла чамусьці надта ж марудна. Святар, паназіраўшы за вазніцамі, зразумеў, што кожны з іх шануе свайго каня. Ён сабраў усіх разам і прапанаваў памяняцца коньмі, пасля чаго праца адразу ажывілася.

* * *

Аўдавеў адзін мужык, а на руках у яго засталося аж шасцёра дзяцей.

Дзе ж яму аднаму ўправіцца з імі, і стаў ён шукаць сабе жонку. Знайшлася такая, што згадзілася пайсці за яго, бо ў яе, самой удавы, таксама мелася шасцёра. А паколькі абое былі не зусім старыя, то нарадзілася ў іх яшчэ шасцёра дзетак. Падрастаюць усе разам, усё як трэба. Толькі аднойчы выбягае з хаты жонка і – да мужыка, што быў на двары: «Хутчэй дапамажы! Бо твае дзеці і мае дзеці б'юць нашых дзяцей!»

* * *

Нейкі шляхціц адправіў свайго сына вучыцца ў Падую, што ў Італіі. І як жа ён здзівіўся, калі праз некалькі месяцаў сын раптам з'явіўся на родным двары.

Бацьку студэнт растлумачыў: «Усё лета мяне карміді нейкай травою, дык я зрабіў выснову, што ўзімку пачнуць карміць сенам, чаго мне не вынесці, і вырашыў уцячы».

* * *

У нейкага пана быў кухар. Заказаў аднойчы гаспадар засмажыць гуся і адразу падаць да стала. Калі страва была ўжо гатова, кухар, дэгустуючы, заахвоціўся ды з'еў гусакову ножку. А пан і пачаў свой абед менавіта з ножак, але адразу ўбачыў недахват, ад чаго страшэнна раз'юшыўся і вылаяў кухара. Той у апраўданне стаў даводзіць, што ў птушкі і была толькі адна нага, але довад гэты не ўпэўніў пана, толькі яшчэ больш раззлаваў.

Паехалі яны праз пару дзён па розных справах у мястэчка. Па дарозе кухар звярнуў увагу на чараду гусей, многія з якіх (бо справа была позняй восенню) стаялі на аднойназе.

– Вось бачыце, пане, – ажывіўся кухар, – колькі гусей аднаногіх!

Памешчык, нічога не кажучы, як свіснуў, ад чаго тыя гусі з перапуду паімчаліся з усіх ног. Толькі тады ён зларадна заўважыў:

– Ну, што ты цяпер, блазан, скажаш?

– А тое скажу, шаноўны пане, што трэба было вам і тады свіснуць, мо нага і паявілася б.

* * *

Захварэла неяк адна купчыхаўдава, і наведаць яе прыйшла адзіная з радні мяшчанка, якая ў думках выношвала нейкія планы наконт спадчыны. Яна стала «суцяшаць» хворую:

– Ах, дарагая мая, якая ж ты шчаслівая! Яшчэ крыху, і ты ўбачыш самога Госпада, які паклапоціцца аб тваёй бязгрэшнай душы...

– Калі так, – адгукнулася купчыха, – дык я адразу ж папрашу Пана Бога, каб і табе, мая дарагая, найлепшае месца неадкладна падрыхтаваў.

– Не, не, не трэба, – замахала рукамі госця, гэта парушыць мае справы на зямлі, таму не праспешвай Усявышняга!



* * *

На двор аднаго заможнага шляхціца чынна і з цікавасцю на твары ўязджае запрошаны госць з далёкай Балоны. Гаспадар з шчырым гонарам паказвае сваю радавую сядзібу, галоўны аб'ект якой – драўляны палац у мясцовым стылі.

– О, які цуд! – аддаючы даніну моманту, усклікае чужаземец, чым бясконца ўлагоджвае пачуцці зямяніна і завяршае: – Я ніколі ў жыцці не бачыў так прыгожа складзеных дроў!

*«З дазволу караля і вялікага князя», 2016 г.*









## Шпількі ці іголкі: што вастрэйшае?

*Відаць, прачытаўшы загаловак, многія здзівіліся: няўжо «Вожык» вырашыў памерыцца з некім вастрынёй сваіх калючак? На самай справе не. Проста сёння ён сустрэўся з добрым сябрам, з якім даўно не бачыўся і па якім вельмі засумаваў: польскім часопісам сатыры і гумару «Шпількі».*

*Прыяцельская гутарка зацягнулася надоўга: абодвум ёсць пра што расказаць, успомніць, абмеркаваць. Наш заходні сусед ужо не ставіць шпілек у бок прайдзісветам і прыстасаванцам, аднак з цеплынёй узгадвае часы, на якія прыходзіўся росквіт выдання. І хоць «Шпількі» не выходзяць з 1990 года, дэвіз часопіса — «Сапраўдная дабрачыннасць крытыкі не баіцца» — надзвычай актуальны і зараз. Дарэчы, і матэрыялы выдання, узятыя намі для падборкі з нумароў 1970 — 1980-х гадоў мінулага стагоддзя, чытаюцца так, быццам былі напісаны ўчора.*

*Што ж, знаёмцеся: польскі рэтра-гумар у сучасным гучанні!*

**Веслаў БРУДЗІНЬСКІ**

### З роздумаў

«Гэта добры чалавек, — гавораць пра аднаго, — ён не зрабіў столькі благога, колькі б мог». «Гэта дрэнны чалавек, — кажуць пра іншага, — ён не зрабіў столькі добрага, колькі б мог».

* * *

Мода рэтра — гэта не трыумф старога над новым, а толькі амністыя для пераможаных.

* * *

Не бегай па кожнай справе да начальніка: памятай пра службовую таямніцу!

* * *

Паміж аматарам і прафесіяналам прыкладна такая розніца, як паміж эксгібіцыяністам і стрыптызёркай.

* * *

Я за тое, каб новае як мага хутчэй перамагло старое. Проста хачу, каб пачаўся час настальгіі.

* * *

Ёсць шмат людзей, якія змагаюцца за ўстанаўленне правіла, калі папярэдне ім паабяцаюць быць з яго выключэннем.

**Анджэй НАВІЦКІ**

### А чаму не ты?

Каб у якасць колькасць перайшла
Вырабаў, дапусцім, хоць са шкла,
Трэба нейкі спосаб адшукаць
Іх рабіць, а не перарабляць.

Эфектыўнасць — нашай працы мэта!
Любім мы камфорт з вышэйшым знакам.
Думае хтось дзень і ноч пра гэта
Ды пра тое, як пазбегнуць браку.

Каб не змоўкнуў тэлевізар,
Каб таблеткі даў правізар,
Каб не рвалася тканіна,
Пахнулі духі язмінам,
Каб ад пенкі для галення
Кожны меў задавальненне, —
Вырашае хтось праблемы,
Нестыкоўкі і дылемы
Ад відна да цемнаты.
Хтосьці... А чаму не ты?

Выпраўляй, брат, непаладкі,
Працуй сёння лепш за ўчора,
Асабліва ў тым выпадку,
Калі цяжка было б горай.

Яцак САВАШКЕВІЧ

## Прыкмета

Мы шпацыравалі па пустой вуліцы.

– Паглядзіце, – нечакана сказаў Малы. – Кот.

Кот быў чорным. Няспешна рушыў з паднятым хвастом. Абмінуў неглыбокую вулічную яміну, перайшоў нам дарогу і знік за варотцамі. Мы спыніліся. Мужчына перад намі таксама сцішыў хаду.

– Кот – гэта вельмі мілая жывёліна, – гучна прамовіў Лілек.

– Прыемна трымаць ката ў доме, – дадаў я.

Незнаёмец не рэагаваў. Толькі перанёс цяжар свайго цела на правую нагу, быццам вырашыў пастаяць даўжэй на адным месцы.

– Сорам, – не вытрымала Магда. – Дарослы чалавек, а верыць у прыкметы.

– Вера ў забабоны сведчыць пра цемрашальства, – зазначыў Малы.

Мужчына паціснуў плячамі.

– Не ў гэтым справа, – прамовіў ён, гледзячы ўдалячынь, – проста я не хацеў бы клікаць ваўка з лесу.

Лілек засмяяўся:

– Ну ў Вас і параўнанні: кот і воўк!

– Які там кот, – зноў умяшаўся Малы. – Трошкі большы за пацука звярок.

– Гэта была хутчэй марская свінка, – прамовіла Магда. – А марскія свінкі зусім бяскрыўдныя. Нават чорныя.

Мужчына дастаў цыгарэты. Нам было цікава паглядзець, што ён зробіць з выкарыстанай запалкай.

– Урна для смецця якраз праз дарогу, – не супакойваўся Малы.

Незнаёмец схаваў запалку ў пачак, а пачак паклаў у кішэню. Мы трошкі пастаялі моўчкі.

– І ўсё ж забабоны глыбока сядзяць у народзе, – парушыў цішыню Лілек. – Наш абавязак – несці праменьчык асветы.

– Такога не пераканаеш угаворамі, – уздыхнула Магда.

Мы паглядзелі адзін на аднаго, потым на мужчыну.

– Не будзь дзіцём, чалавеча, – лагодна прамовіў Малы, заходзячы яму за спіну. – Трэба ж некалі паламаць унутраныя страхі.

– Пазней будзеш смяяцца з усіх забабонаў, – дадаў Лілек, паклаўшы руку небараку на плячо.

Той не паспеў і рота адкрыць, як апынуўся ў яміне.

– Ну, і хіба здарылася нешта дрэннае? – усміхнуўся Малы.

Мужчына, абтрэсваючы адзенне, адказаў нібы нават з палёгкай:

– Нічога. Адчуваю сябе выдатна. Усе прыкметы – сапраўднае глупства.

Мы дапамаглі незнаёмцу выбрацца наверх.

– Дзякаваць не трэба, – прамовіла Магда на развітанне. – Гэта быў наш абавязак.

Як жа прыемна час ад часу вывесці бліжняга, які заблукаў, на правільную сцежку!




Малюнак Ежы ФЛІСАКА, 1976 г.




Малюнак Юліяна БАГДАНОВІЧА, 1976 г.

**Пераклады з польскай Веранікі МАНДЗІК.**

Віктар ЛОЎГАЧ

# Красачка і цяльпук



*Іранеска*

Мая жонка Клаўдзія, калі па шчырасці, жанчына – красачка.

Для мяне яна самая яркая кветачка. А я, па словах жонкі, – лайдак, цяльпук і няўмека. І гэта я чую ад Клаўкі кожны дзень разоў з паўсотні.

Прыехала нядаўна пагасцяваць цешча. На вакзале сустрэў яе з букетам руж, на сябравай дарагой машыне. А за святочным сталом з нагоды прыезду падарыў залаты пярсцёнак і французскі касцюм. Апранула яго цешча – як на заказ шылі. А Клаўка:

– Знайшоў, цяльпук, чым парадаваць! Хіба не мог штосьці іншае купіць?

Не ацаніла жонка і згатаваную мною качку:

– Табе кухарыць – што сляпому агарод палоць. Няўмека – і ўсё тут.

А цешча тую качку ела з такім апетытам, нібыта галоднай з тыдзень была.

Да прыезду важнай госці я ў кватэры падлогу памыў. Чыстай, бліскучай, што стальное лязо, стала. Клаўка толькі рукамі развяла:

– Ці ж так мыюць? Брыдка глядзець.

Гультай я і недарэка. За што мне тады на рабоце прэмію далі пяцьсот рублёў? Я ў той дзень не ішоў, а бег дадому. Вось, думаў, парадуецца жонка. Але і тут не дагадзіў.

– Чаму толькі пяцьсот? Гультай, мог і тысячу атрымаць!..

Мяне што кіпнем аблілі ў гэты момант. І я ў роспачы выгукнуў:

– Ды гары яно ўсё гарам! Кіну свой аддзел праграмавання, у вартаўнікі падамся. Хоць адасплюся.

І тут жонка галубкай прыляцела да мяне ў абдымкі. Пачала цалаваць у шчочкі, вусны, лоб і прыгаворваць:

– Стасік любы, Стасік родны, ды што з табою? Я ўсё табе прабачаю. Толькі па-ранейшаму працуй загадчыкам аддзела.

У гэты момант я зразумеў, што жанчына можа прабачыць мужчыну нават тады, калі ён ні ў чым не вінаваты. Дык як не кахаць жонку, свайму шчасцю не радавацца? І я таксама стаў горача цалаваць сваю Клаўку.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

**Віктару ЛОЎГАЧУ – 80!**

Рэдакцыя часопіса «Вожык» шчыра віншуе Віктара Аляксандравіча з 80-годдзем і жадае моцнага здароўя, жыццярадаснага настрою і пастаяннага прыліву творчых сіл!




## Літаратурнае фіяска

Прыгожае наша пісьменства
Цярпела фіяска не раз,
Калі графаман да шаленства
Узлезці хацеў на Парнас.



## Як я ажаніўся

Кахання бог Амур аднойчы
Падліў употай мне віна.
Адкрыў спрасоння ранкам вочы,
Гляджу – ляжыць са мной яна...




## Неабачлівы гуляка

Дасталося мужу Сеню
Ад сваёй Аўдоткі,
Бо знайшла ў яго кішэні
Вечарам калготкі.

## Жаніх

Не паспеў зайсці у хату,
Абдымаць пачаў Агату.
Кажа ёй: «Хачу жаніцца!
Толькі дай мне... пахмяліцца».



## Абяцанне

– Будзь маёю жонкай, Ніна,
Вельмі ж я цябе люблю!
Згодзішся – куплю машыну!
Толькі, праўда, пральную...



**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

## Не хлебам адзіным…

Прымаўка «Не хлебам адзіным жывы чалавек» азначае тое, што ў кожнага ёсць не толькі матэрыяльныя патрэбы. Але дырэктар ААТ «Слуцкі хлебазавод» зразумеў гэты выраз літаральна. «Духоўнасць – справа добрая, але ж мець у кішэні лішнія грошы куды больш прыемна», – аднойчы падумаў ён. І вырашыў прыняць хабар (800 долараў ЗША) ад прадстаўніка прыватнага прадпрыемства за ажыццяўленне яго камерцыйных інтарэсаў. Да таго дырэктар уладкаваў на хлебазавод знаёмую бізнесмена.

Аднак грошы не доўга прабылі ў хабарніка, хутка яго затрымалі міліцыянеры. Вядзецца следства. Мяркуем, у бліжэйшыя некалькі гадоў ён, безумоўна, будзе больш увагі надаваць менавіта духоўнаму баку свайго жыцця.







## Няўдалае каханне

Калі чалавеку хтосьці па-сапраўднаму падабаецца, ён гатовы выконваць любыя капрызы свайго аб'екта сімпатыі, дапамагаць яму ва ўсіх пачынаннях і верыць кожнаму яго слову.

Мінчанка пазнаёмілася з жыхаром Масквы з дапамогай інтэрнэту. Яны вельмі спадабаліся адзін аднаму, доўга размаўлялі пра розныя рэчы. Мужчына нават даверыўся жанчыне і расказаў, што хоча набыць аўтамабіль. Тая прапанавала сваю дапамогу, маўляў, у яе ёсць знаёмы, які займаецца продажам машын. Масквіч пагадзіўся і пераве ў на яе рахунак 18 тысяч долараў. Пасля гэтага мінчанка пачала «карміць» яго абяцанкамі, што вось-вось аўто будзе ў мужчыны. Той верыў і чакаў ажно паўтара года. Але не вытрымаў і напісаў заяву ў міліцыю.

Жанчыну затрымалі. За махлярства яна можа трапіць за краты на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў. Масквічу варта толькі паспачуваць. Спадзяёмся, у будучым ён не будзе давяраць адказныя грашовыя справы сваім аб'ектам сімпатыі.

## Справа гонару

Усе ведаюць, што картачны доўг – справа гонару. Калі прайграў, то павінен абавязкова выканаць абяцанкі.

Так жыхар вёскі Лосева Гродзенскага раёна бавіў вечар са сваёй сужыцелькай. Пад гарэлку яны пачалі гуляць у карты на жаданні. Калі мужчына прайграў, яго каханая загадала, каб ён прайшоўся па вуліцы голым. Той заўпарціўся крыху, але нічога не зробіш, доўг ёсць доўг, распрануўся і пайшоў. Пра тое, што на вуліцы былі дзеці, мужчына нават не задумаўся.

У выніку на яго завялі крымінальную справу па артыкуле «Хуліганства». Пасля такога вяскоўца абавязкова павінна адвярнуць не толькі ад карт, але і ад усіх магчымых азартных гульняў.






Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Андрэя СІДАРЭЙКІ.



## Сіліконавыя двайнікі

Уключыла неяк тэлевізар,
Каб фільм цікавы паглядзець.
Усе праграмы — пад дэвізам
«Нямодна нам цяпер старэць!»

Сядзяць у студыях жанчыны
(Дзе адшукаў іх рэжысёр?).
Нібы хтось вочы, вусны, спіны
Зрабіў ім на адзін узор.

Цікава, колькі сілікону
Пайшло на кожны «экзэмпляр»?
Касметыкі, напэўна, тону
Наклаў на іх грымёр-штукар.

Не ў трэндзе зараз унікальнасць,
Напэўна, лад жыцця такі...
Заўзята маскіруюць старасць
Штодня жанчыны-двайнікі.

**Валянціна БАБКО-АЛЯШКЕВІЧ,**
*Салігорскі раён,*
*в. Радкава.*

## Я жывы!

*З натуры*

Каля поўначы Іван вяртаўся нападпітку ў сваю аднапакаёвую кватэру ў хрушчоўцы. Ягоная сям'я — жонка і двое дзяцей — ужо спала, але гэта не супыніла мужчыну, якому ну вельмі захацелася памыцца. Ён зрабіў цёплую ванну, залез у яе, разамлеў ды неўзабаве і заснуў. Але ад шуму прачнулася жонка Івана. Уздыхнуўшы, яна спусціла ваду, каб небарака не ўтапіўся, і накінула на яго прасціну — раптам яшчэ дзеці ўбачаць такі жах? Пагасіўшы святло, жанчына спакойна пайшла спаць.

А Іван, добра ўкалеўшы ў чыгуннай ванне, праз паўгадзінкі прачнуўся. Убачыўшы сябе голым пад белай прасцінай, ён падумаў, што трапіў у морг, і загаласіў: «Я жывы! Я жывы!» На лямант усхапілася жонка. Яна пабегла ў ванную запальваць святло, але нават гэта не супыніла няшчаснага «мерцвяка». У дзверы пачалі грукаць суседзі, на выклік прыехала міліцыя...

Пасля гэтага выпадку з алкаголем Іван завязаў.

**Даслаў Мікалай СЦЭПУЛЁНАК,**
*г. Дзяржынск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася СЛІВЫ.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Міхася ШУЛЬГІ.

## Насустрач новым усмешкам






Вялікае жаданне дарыць смех і весялосць вожыкаўскаму чытачу мае наша сённяшняя дэбютантка – Наталля Кабякова. Мастачка, дызайнер, ілюстратар перыядычных выданняў для дзяцей, індывідуальны прадпрымальнік – далёка не поўны пералік усяго, чым займаецца Наталля. У свой час яна паспела папрацаваць у выдавецтвах, друкарнях, рэкламных агенцтвах. З 2010 года пачала маляваць карыкатуры для газеты «Шапокляк», рабіць ілюстрацыі для дзіцячага часопіса «Мир компьютеров», а сёння працуе дызайнерам-фрылансерам* і наладжвае творчае сяброўства з нашым часопісам. Віншуем Наталлю з дэбютам у «Вожыку» і жадаем паспяхова далучыцца да нашай вясёлай сям'і!






*Фрылансер – той, хто працуе аддалена.




Шлюб – гэта доўгая размова, якая перапыняецца спрэчкамі.

*Роберт Луіс Сцівенсан, англійскі пісьменнік*

Лепш, калі думкі імчацца на кані, язык рухаецца следам за імі пешшу, трымаючыся за сядло, і не адстае падчас бегу.

*Лукіян, старажытнагрэчаскі пісьменнік-сатырык*

Узрост – гэта калі чалавек пачынае абменьваць эмоцыі на сімптомы.

*Ірвін Коб, амерыканскі пісьменнік*

Усе жанры добрыя, акрамя сумнага.

*Вальтэр, французскі пісьменнік*

Сяброўства, якое спынілася, ніколі, уласна, і не пачыналася.

*Публій Сір, старажытнарымскі паэт*

Калі разумны ганьбіць сябе, гэта дрэнна, але калі хваліць дурань, гэта яшчэ горш.

*Томас дэ Ірыяртэ, іспанскі паэт і драматург*

Нельга быць сябрам жанчыны, калі можна быць яе палюбоўнікам.

*Франсуа Менар, французскі паэт*

Грошай, якіх я зарабіў, хопіць мне да канца жыцця, калі я памру сёння а 16-й гадзіне.

*Хені Янгман, амерыканскі скрыпач і гумарыст*

Чым больш людзі кажуць, тым менш яны схільныя рабіць.

*Томас Карлейль, англійскі пісьменнік, гісторык, філосаф*

Усе скардзяцца на сваю памяць, але ніхто не скардзіцца на свой розум.

*Франсуа дэ Ларашфуко, французскі пісьменнік*




**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## Аглаіны песні

*Казка*

У невялічкім балотцы каля рэчкі жыла жабка Аглая. Прыгожая, маленькая, лупавокая. Пра ўсё даведацца хацела, да ўсяго язычком дакрануцца. Вельмі любіла Аглая спяваць, хоць і атрымлівалася ў яе толькі «ква» ды «ква».

Жыла яна разам з бацькамі і старэйшымі братамі Квакам і Квікам. На суседняй купіне туліліся бабуля з дзядулем. Дарослыя заўсёды былі занятыя сваімі справамі: бацька лавіў камароў і мошак, маці гатавала ежу і мыла бялізну, бабуля вязала шкарпэткі, а дзядуля драмаў у цянёчку.

Сястрычку даручылі даглядаць Кваку з Квікам. Але ж тым так хацелася



панырацъ і паплаваць! Пасадзілі браты Аглаю на ліст гарлачыка, загадалі, каб не злазіла з яго нікуды. Мы ж, маўляў, хутка вернемся.

Непадалёк ад балота жыў салавейка. Ён так хораша спяваў, што ўсе навокал забываліся на свае клопаты і з захапленнем слухалі ягоныя песні.

– Вось каб я так спявала! – прамовіла Аглая. – Ды дзе ж навучыцца?..

Птушачка пачула жабку і загаварыла з ёй:

– Не сумуй, Аглаечка, я навучу цябе. Толькі паўтарай за мной.

Жабка ўзрадавалася і пачала падпяваць салавейку:

– Ква-ква, ква-ква, ква-ква!

А той не спыняўся ні на хвілінку. Іншыя салаўі таксама да яго далучыліся.

Непрыкметна наступіў вечар. Апамяталіся Квак з Квікам, пабеглі шукаць сястрычку. І вельмі здзівіліся, калі пачулі Аглаю, што ўслед за салавейкам выводзіла нотку за ноткай. Дома яны расказалі бацькам пра гэтыя цудоўныя спевы. Тыя ажно не паверылі.

І зараз улетку каля балотца кожны вечар спяваюць салаўі. А Аглая падпявае ім. Не верыце? Дык прыслухайцеся калі-небудзь – і вы абавязкова пачуеце яе песню.

*г. Барысаў.*




Міні-комікс Паўла ГАРАДЦОВА.



Міні-комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




## Юны геній

Пяцікласнік Мікіта – хлопчык адказны, па ўсіх прадметах мае добрыя адзнакі. Захапляецца камп'ютарам, а нядаўна пачаў збіраць калекцыю мадэляў самалётаў. Аднак іншы раз, калі да яго прыходзяць сябры, у пакоі ўзнімаецца такі вэрхал, што маці, не стрымаўшыся, лупіць свайго разумніка ручніком і пагражае выкінуць на сметнік усе ягоныя мадэлькі.

Пасля чарговага павучання сын з самым сур'ёзным выглядам зрабіў ёй заўвагу:

– Парадак патрэбны толькі людзям абмежаваным, а геніям падуладны хаос, у якім яны знаходзяць важныя рашэнні.

Маці прамаўчала і выйшла з пакоя, ціха прычыніўшы дзверы. Раптам яшчэ спалохае сынаву геніяльнасць!



## Дзяцел-карміцель

У выхадны дзень Волечка з маці гулялі ў лесе і пачулі дзятла. Маці паказала ёй прыгожую пярэстую птушку і растлумачыла, што так дзяцел збірае шкоднікаў, каб накарміць сваіх дзетак.

Назаўтра ў садку дзяўчынка паведаміла сябрам: «А я бачыла ў лесе дзятла. Ён працуе без выхадных, каб пракарміць сям'ю».

**Даслала Нэла ЛОСЬ,**
*Пастаўскі раён,*
*г. п. Лынтупы.*

## Мама, муць!

Януся забягае ў залу, кідаецца маці ў калені, абдымае іх і просіць:

– Мама, муць, муць!

Тая ўсё разумее, уключае тэлевізар і шукае ёй каналы з мульцікамі. Малая задаволена замірае на канапе, угледаючыся ў стракаты экран.

Бабуля спрабуе глядзець разам з унучкай раней невядомыя замежныя мультфільмы. Але хутка кажа, уздыхаючы:

– І праўда, дзетачка, якая муць!



## Як Мікіта ў школу захацеў

Мікіта, калі яму было пяць гадоў, заяўляў усім:

– А я ў школу не пайду! Не хачу!

Цэлы год яго радня ўгаворвала, але так і не змагла. Нават сорамна было перад суседзямі і іншымі бацькамі ў дзіцячым садку.

Але летам перад школай, калі пачалі яго аднагодкам каляровыя заплечнікі ды прыгожую школьную форму купляць, Мікіту як падмянілі. І ён у школу захацеў! А на кпіны ўзрадаваных родзічаў сур'ёзным голасам адказваў:

– Усе ідуць, і я пайду! Што я – дурны, ці што?

## Стасіна рэклама

Госця кажа маладым бацькам:

– Стася ў вас малая, а так доўга глядзіць тэлевізар разам з дарослымі.

– Гэта яна рэкламу сваю любімую чакае. Калі ідзе рэклама (а там і дзеці, і коцікі, і кароўкі) – у далонькі пляскае і смяецца!

Сама Стася важна тлумачыць:

– Я хачу, каб рэкламу дарослымі фільмамі і навінамі не перабівалі!

**Бабуля ЗАНАТУЛЯ,**
*г. Мінск.*




Міні-комікс Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

# «Пад звон-песню жывучых гуслеравых струн...»



**Па гарызанталі:**

**2.** Ахоўнік падземных скарбаў паводле міфаў. **7.** Баба-... – ведзьма з касцяной нагой. **8.** У славянскай міфалогіі – жыхар лазні і яе гаспадар. **9.** «Прытаіцца да моху ..., лясун, \\ Каня вечнага «піць» не заводзіць» (з паэмы Я. Купалы). **11.** Чарцёж мясцовасці. **13.** Бог, які лічыўся апекуном раслiннай ураддівасці і чалавечай пладавітасці. **14.** Багіня цнатлівасці. **17.** Ніжняя частка грыба. **18.** Поспех. **19.** Васьміногая істота, забіць якую лічылася дрэнным знакам. **20.** Пшанічны хлеб у выглядзе замка з дужкамі. **22.** Адна з назваў Ліхаманкі. Па павер'і паўстае ў выглядзе маладой жанчыны або злоснай пачварнай бабы, радзей – у выглядзе мухі, парушынкі. **23.** «Добра пеўні пачалі крычаць-спяваць, \\ І разбегліся па зарасніках ... » (з верша М. Танка). **25.** Правы прыток Прыпяці. **29.** Дзень, які лічыўся добрым для пасадкі і праполкі цыбулі, мыцця жанчын у лазні. **30.** Даўні народны звычай калектыўнай дапамогі ў гаспадарчых работах. **31.** Літара «р» у старажытнаславянскай азбуцы. **32.** Касьба травы на сена.

**Па вертыкалі:**

**1.** ... або Верасовы дзядок. **2.** Вопратка ствала дрэва. **3.** «Антось наш ..., акуратны, \\ А пры рабоце які здатны!» (з паэмы Я. Коласа). **4.** Радавая абшчына. **5.** Прэснаводная рыба з сямейства карпаў. **6.** Дужка, якая злучае некалькі нотных станаў у арганных ці фартэпіянных п'есах. **10.** Беларускі бог хмелю, радасці і жартаў. **11.** Уладальнік маёнтка, памешчык. **12.** Нячысцік, які жыве ў багністых мясцінах – аржавеннях. **15.** «Такая ... ў людзях ходзіць: \\ Стварыў бог свет і ўсё, што ў ім» (з паэмы Я. Коласа). **16.** «Зіхацяць маёй кароны \\ Залатыя рожкі, \\ Цёмным блескам адлівае \\ Ўся ... мая» (з верша М. Багдановіча). **19.** Пачуццё ласкі. **21.** Старажытнаславянскі бог, які ахоўвае межы зямельных уладанняў. **24.** Від даходу, які рэгулярна атрымліваюць уладальнікі капіталу, зямлі ці маёмасці. **25.** Істота з хвастом, рагамі і казлінымі нагамі ў грэчаскай міфалогіі. **26.** Сукупнасць твораў народнай творчасці. **27.** «Вось б'юцца ... ды з Геркулесам, \\ А Геркулес, як той мядзведзь, – \\ Каб цешыць старага Зевеса, \\ Хахол ён Марсу добра мнець» (з паэмы К. Вераніцына). **28.** Культурная расліна, якую з-за яе опіумных уласцівасцей асацыіруюць са сном і смерцю.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**
**2.** Кладнік. **7.** Яга. **8.** Лазнік. **9.** Русалка. **11.** План. **13.** Ярыла. **14.** Сева. **17.** Ножка. **18.** Удача. **19.** Павук. **20.** Калач. **22.** Шуня. **23.** Чарці. **25.** Стыр. **29.** Пятніца. **30.** Талака. **31.** Рцы. **32.** Сенакос.

**Па вертыкалі:**
**1.** Лясун. **2.** Кара. **3.** Дбалы. **4.** Клан. **5.** Язь. **6.** Акалада. **10.** Пераплут. **11.** Пан. **12.** Аржавень. **15.** Байка. **16.** Луска. **19.** Пяшчота. **21.** Чур. **24.** Рэнта. **25.** Сатыр. **26.** Эпас. **27.** Марс. **28.** Мак.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

| | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | 2 | | | 3 | | | 4 | | 5 | | | 6 |
| | | | 7 | | | | | | | | 8 | | | | | |
| | | | | | 9 | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | 10 | | |
| 11 | | 12 | | | | | 13 | | | | | | 14 | | | |
| | | | | 15 | | | | | | | | | 16 | | | |
| 17 | | | | | | | | | | | | | 18 | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 19 | | | | | | | | | | | | | 20 | | | 21 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 22 | | | | | | | 23 | | 24 | | | | 25 | | | |
| | | | | | 26 | | | | | | 27 | | | | | |
| | | | 28 | | 29 | | | | | | | | | | | |
| 30 | | | | | | | | | | | 31 | | | | | |
| | | | | | 29 | | | | | | | | | | | |




Бывае дзірка ў галаве,
У іншых не адна, а дзве.
Ў людзей на ўсёй планеце
Ў мазгах гуляе вецер.

* * *

Граблі – нібы божы дар:
Навучальны інвентар.

* * *

Не працуюць лайдакі –
Ім работа не з рукі.
Тут усё наадварот:
Замест рук працуе рот.

**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*



Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

## Анекдоты ад «Вазні»



**(Арменія)**

— Алё, гэта сталоўка?
— Так, слухаем.
— У вас месца повара ёсць?
— Вы што, дурань?
— А гэта абавязкова?

* * *

— Анаід джан, восень праміне, зіма праміне, вясна прыйдзе, тута выспее... Прыйдзеш у госці, добра цябе пачастую.

— Ды я больш люблю яблыкі і арэхі, якія ўжо зараз у тваім садзе паспелі.

* * *

Ляснік Варос распавядае:

— Захварэла мая жонка, тыдзень з ложка не ўставала. Абмовіўся, што прывяду ў дом новую жанчыну, каб пра нас абаіх клапацілася. Праз дзве гадзіны гляджу — а жонка ўжо па гаспадарцы завіхаецца.

* * *

На армянскай мытні.

— Так, гэта дудачка, зразумела. А вось гэта што? — чалавек у форме дастае з інструмента мяшэчак з брыльянтам.

— Гэта ежа для дудачкі.

— Хіба яна есць камяні? — здзіўляецца мытнік.

— Есць, не есць... Скуль мне ведаць? А калі і не есць, бог з ім. Ён табе што, перашкаджае?..

**Пераклад з армянскай Ганада ЧАРКАЗЯНА.**




Малюнак Алега ПАПОВА.

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 8 (1535), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 09.08.2016. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,65. Тыраж 1016 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# Дыпламаваны баран

*(паводле байкі Кандрата Крапівы)*




Комікс Наталлі КАБЯКОВАЙ.

Пякучы аловак

Конкурс коміксаў да 120-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы

Малюнак Алега ГУЦОЛА.




***ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:***

Што можа замяніць рыбалку?

Якая бульба заўсёды смачнейшая?

Чым маюцца сучасныя студэнты?

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,40 рублёў,
індэкс 01380, цана 2,70 рублёў,
індэкс 748442, цана 9,70 рублёў,
індэкс 01381, цана 7,70 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**



